ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

**№185 (1998)**

Субота, 2 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +7...+9, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +10...+12, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +8...+10, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +7...+9, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +11...+13, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +8...+10, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*

**ПУЛЬС**

### «Белзнешпрамсервіс» стаў аўтсайдэрам...

Пра гэта заявіў прэс-сакратар Рычард Баўчар, паведамляе прэс-служба знешнепалітычнага ведамства Злучаных Штатаў.

Аддзел Дзяржаўдэпартамента ЗША па нераспаўсюджванні абвінаваціў 14 арганізацый у парушэнні міжнароднай дагавора 2000 года аб забароне продажу Ірану ракетных тэхналогій. У спісе апынуліся 7 кітайскіх арганізацый, 2 індыйскія і па адной арганізацыі з Беларусі, Іспаніі, Расіі, Паўночнай Карэі і Украіны. "Белзнешпрамсервіс" і іншыя арганізацыі абвінавачваюцца ў незаконнай пастаўцы Ірану абсталявання і тэхналогій, якія могуць быць выкарыстаны для стварэння зброі масавага паражэння або балістычных ракет. Увядзенне санкцый азначае забарону гэтым суб'ектам на гандаль з любымі амерыканскімі ўстановамі на працягу двух гадоў. Р.Баўчар падкрэсліў, што санкцыі будуць прыменены "непасрэдна да суб'ектаў гаспадарання, а не да краін або ўрадаў".

### ...Але адхіляе абвінавачванні

"Белзнешпрамсервіс" адхіляе абвінавачванні аддзела Дзяржэпартамента ЗША ў незаконнай пастаўцы ў Іран абсталявання і тэхналогій, якія могуць быць выкарыстаны для стварэння зброі масавага знішчэння альбо балістычных ракет. Пра гэта паведаміў БелаПАН 30 верасня прадстаўнік дзяржаўнага знешнегандлёвага УП "Белзнешпрамсервіс".

Нагадаем, што 29 верасня Дзяржэпартамент ЗША наклаў двухгадовую забарону на гандаль з беларускай кампаніяй. 14 арганізацый былі абвінавачаны аддзелам па нераспаўсюджванні ў парушэнні міжнароднай дамовы 2000 года аб забароне продажу Ірану ракетных тэхналогій: 7 кітайскіх арганізацый, 2 індыйскія і па адной арганізацыі з Беларусі, Іспаніі, Расіі, Паўночнай Карэі і Украіны.

**Марына РАХЛЕЙ.**

### З 4 кастрычніка — за шэнгенскімі візамі на праспект Праўды, 11

У новым пабудаваным комплексе будынкаў будуць размешчаны таксама іншыя падраздзяленні пасольства Германіі, паведамляе прэс-служба дыппрадстаўніцтва.

Новыя памяшканні консульска-прававога аддзела, зазначаюць у пасольстве, даюць пасольству Германіі магчымасць палепшыць аказанне паслуг для беларускіх грамадзян, а таксама для грамадзян Германіі, якія знаходзяцца ў Беларусі.

Пасольства ФРГ выдае за год больш як 100.000 віз беларускім грамадзянам для паездак не толькі ў Германію, але і ў Бельгію, Нідэрланды, Люксембург і Аўстрыю. Пры гэтым большасць грамадзян Беларусі наведваюць Германію паводле шэнгенскай візы.

**Марына РАХЛЕЙ.**



**ВЫБАРЫ—2004**

# Граблі — па лбе,

*альбо Пра тое, ці варта нам паўтараць памылкі прэзідэнцкай кампаніі — 1994*

За шматлікімі размовамі пра "несправядлівыя" і "прадузятыя" крокі Цэнтрвыбаркама, што тычацца нерэгістрацыі тых ці іншых кандыдатаў у дэпутаты ППНС, мы, у незалежнай прэсе, неяк забыліся пра стратэгію і тактыку перадвыбарнай барацьбы. Разумееце, пра што я вяду гаворку? Спачатку дазволю сабе нагадаць вам, шаноўныя чытачы, як "пракалоліся" дэмсілы на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года. Два кандыдаты, якія выступалі за вольную, незалежную і дэмакратычную Беларусь, Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч не здолелі дамовіцца аб адзіным кандыдаце і таму прапусцілі наперад "чорціка з табакеркі" Аляксандра Лукашэнку. Хто ведае, што было б з нашай краінай зараз, у якім бы кірунку яна рухалася, каб тая дамова дзесяць гадоў таму адбылася...

На прэзідэнцкіх выбарах 2001 года памылка з распыленнем галасоў дэмакратычнага электарату была выпраўлена, і апазіцыя выбрала, хоць і запозна, адзінага кандыдата. Усе, здаецца, разумеюць, чаму гэты кандыдат не перамог на тых выбарах, але стратэгія адзінага кандыдата, як усе прызнаюць, была і ёсць адзіна правільная. Але ж чаму тады на гэтых "палаткавых" выбарах-2004 апазіцыя зноў наступае на старыя граблі, раскідваючы сваіх кандыдатаў без усялякай сістэмы па ўсіх выбарчых акругах? Калі азнаёміцца са спісам кандыдатаў у дэпутаты, шмат у якіх са 110 выбарчых акругаў у Беларусі прысутнічаюць два, а то і болей кандыдатаў ад дэмапазіцыі: кандыдат ад АГП спаборнічае з кандыдатам ад БНФ; незалежны кандыдат, які стаіць на дэмакратычнай платформе, спаборнічае з сацыял-дэмакратам, які, гэтаксама як незалежны кандыдат, выступае супраць рэферэндуму. Пры гэтым у кожнай акрузе — даволі моцны, карыстаючыся адміністратыўным рэсурсам, а значыць, маючы эфектыўныя рычагі ўздзеяння на пэўныя катэгорыі выбаршчыкаў, кандыдат ад улады. Дык што ж атрымліваецца, што мы самі даём рэжыму магчымасць запоўніць "палатку" так, як яму трэба.

Добры прыклад для пераймання, на маю думку, зрабіў днямі **Пётр Голасаў,** член Нацыянальнага камітэта Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які балатаваўся па Дзяржынскай выбарчай акрузе №80. Адчуваючы, што кандыдат ад улады Фёдар Стрыкаў, генеральны дырэктар прадпрыемства "Горстройиндустрия" мае даволі моцную падтрымку ад мясцовай "вертыкалі", а таксама даведаўшыся, што яшчэ адзін прыхільнік Лукашэнкі, кандыдат у дэпутаты Мікалай Радкевіч зняў сваю кандыдатуру на карысць Стрыкава, Пётр Голасаў таксама вырашыў зняць сваю кандыдатуру, але ўжо на карысць жыхаркі Дзяржынска, дэмакраткі Таццяны Ванінай з закрытай нядаўна Партыі працы. Рэйтынг Ванінай, згодна з незалежнымі сацыялагічнымі даследаваннямі, крыху вышэй, чым у Голасава. Цяпер, згодна з меркаваннямі актывіста АГП, на выбарах па Дзяржынскай выбарчай акрузе будуць супрацьстаяць апалагет рэжыму Лукашэнкі і дэмакрат. Сам Пётр Голасаў, дарэчы, узначальвае ў Дзяржынску грамадскае сацыяльна—культурнае аб'яднанне "Рунь", адным з напрамкаў дзейнасці якога з'яўляецца аказанне гуманітарнай дапамогі інвалідам, ветэранам вайны і праблемным сем'ям, і таму сп. Голасаў карыстаецца павагай у раёне.

*"Я заклікаю ўсіх дэмакратаў зрабіць тое ж самае, каб не распыляць сілы,* — кажа Пётр Голасаў у інтэрв'ю "Народнай волі", — *нам трэба над гэтым задумацца, пакуль не позна, і праявіць, нарэшце, палітычную волю, пакінуўшы у кожнай выбарчай акрузе па адным кандыдаце ад дэмакратычных сіл. Я лічу, што калі мы не зможам дамовіцца аб адзіных кандыдатах, то страцім давер значнай часткі прагрэсіўнага электарату. Нашы кандыдаты ў такім выпадку "расцягнуць" галасы выбаршчыкаў і не здолеюць выкарыстаць тыя магчымасці, якія дае праца адзінай каманды. Што тычыцца мяне, то я зняў сваю кандыдатуру і згадзіўся стаць даверанай асобай Таццяны Ванінай. Застаюся працаваць у яе камандзе. Я ўпэўнены, што адзіная каманда будзе нашмат эфектыўнее агітаваць супраць рэферэндуму".*

Не падзяляе думку актывіста з АГП палітолаг **Уладзімір Падгол,** які лічыць, што версія пра тое, што некалькі дэмакратычных кандыдатаў на адным участку расцягваюць галасы выбаршчыкаў, *"зыходзіць з таго меркавання, што выбары ў Беларусі праходзяць у абсалютна дэмакратычных умовах, а ўлада дзейнічае па абсалютна дэмакратычных законах і правілах. Толькі ў такім выпадку ваша версія мела б права на існаванне. Але ж мы, на жаль, цудоўна ведаем, што гэта ўсё далёка не так. Таму меркаванне пра тое, што нібы ідзе распыленне галасоў, — памылковае. Зараз, па сутнасці, вынікі выбараў у "парламент" ужо вядомыя, ніводнага апазіцыянера там не будзе. У прыватнасці, напрыклад, я ведаю, што па некаторых акругах спісы прозвішчаў будучых дэпутатаў былі вядомыя ўжо месяц таму. У такіх умовах, я лічу, няма нічога страшнага, што ў кожнай акрузе ідзе адразу некалькі кандыдатаў ад дэмакратычнай апазіцыі. Яны мусяць канцэнтраваць свае сілы на агітацыі супраць рэферэндуму і на падрыхтоўку свядомасці выбаршчыкаў да таго, што іх, гэтых выбаршчыкаў, па сутнасці, падманваюць".*

Во, дажыліся! Аказваецца, кандыдаты ў дэпутаты ў нас удзельнічаюць у выбарах, растрачваючы пры гэтым шмат намаганняў і, што немалаважна, уласных грошай толькі для таго, каб даказаць выбаршчыкам, што іх падманваюць. Але ж гэта даказаў яшчэ ў далёкім 1995-м "малады прэзідэнт" Аляксандр Лукашэнка, калі прызваў народ не хадзіць на выбары: "усё роўна падмануць". Як у ваду глядзеў.

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота photo.bymedia.net**

# Обращение

## к судьям, прокурорским работникам, сотрудникам органов внутренних дел и безопасности, военнослужащим Республики Беларусь

Подводя в декабре прошлого года итоги комплексной проверки деятельности КГБ, А.Лукашенко подверг это ведомство резкой критике, фактически представив его на совещании чуть ли не штабом и оплотом оппозиции.

Можно ли поверить, что организация, вопреки всему и даже несмотря на бездумную кадровую политику власти, допустила такие промахи в работе?

Причина такой реакции иная: оказывается, власть своевременно не получает информацию о каналах поступлений технических средств и о финансовых потоках для белорусской оппозиции. Сегодня под высокопарные слова о защите Отечества и об интересах простых людей кадры бесконечно "просеиваются" по принципу личной преданности правителю. Часто это выглядит цинично и даже вызывающе. К примеру, генеральным прокурором в 2000 году был назначен человек, не имевший к тому времени юридического образования, более того, подозреваемый в причастности к особо тяжким преступлениям. Назначение состоялось как раз после того, как бывшие генеральный прокурор Олег Божелко и председатель Комитета государственной безопасности Владимир Мацкевич потребовали арестовать Виктора Шеймана.

Беспрецедентный случай: уже ООН и депутаты ПАСЕ в своих резолюциях (в апреле месяце текущего года) требуют от белорусских властей отставки генерального прокурора страны и проведения подлинно независимого расследования случаев исчезновения людей. Казалось бы, резкая реакция цивилизованного сообщества как-то сдержит нынешнюю власть от очередных политических репрессий. Но факт помещения 26.04.04 г. Михаила Маринича в СИЗО КГБ свидетельствует о том, что правовой беспредел в нашей стране может продолжаться еще долго, ровно столько, сколько мы с вами будем это терпеть.

У нас нет сомнений, что в силовых ведомствах Беларуси, где большинство сотрудников — честные и преданные своему делу люди, давно зреет недовольство некомпетентной и бездарной политикой, уже десять лет проводимой в нашей стране. Вам хорошо известно, что ради сохранения абсолютной власти одного человека вас будут толкать на противоправные действия, преднамеренно делая из вас заложников его политики.

Теперь, накануне выборов в Палату представителей Национального собрания РБ, а позже и президентских, будет предпринято все, чтобы обрушить мощь и возможность силовых ведомств на тех, кто уверен, что нынешняя политика власти ведет страну к катастрофе, лишая наших детей и внуков будущего. А ведь люди, которые сегодня противостоят режиму, хотят одного: построить для наших детей и внуков демократическую и процветающую Беларусь. Наш народ заслужил лучшей доли!

Обращаемся к вам, к тем, для кого честь и звание защитника Отечества не пустые слова:

— не поддавайтесь на провокации политических банкротов. Никто не может быть понужден к исполнению обязанностей, не предусмотренных Конституцией;

— станем вместе на защиту законности и правопорядка, оградим общество от политического террора, обеспечим условия, при которых восторжествует сила закона, а не закон силы.

Обеспечив строгое соблюдение Конституции и законов, мы сможем создать условия, когда народ Беларуси демократическим путем выберет себе лидера и путь своего развития. Народ устал от пустой болтовни и шараханья. Так не настала ли пора определиться: кто Вы? Или верные слуги народа, хранители и защитники правопорядка, или Вы — молчаливые и трусливые соучастники творимого беззакония?

Желаем Вам и Вашим семьям благополучия!

**С уважением —**

**М.И.ГРИБ,**
**генерал-лейтенант милиции,**
**председатель Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва, заслуженный юрист Беларуси;**
**О.М.ИГНАТЕНКО,**
**подполковник запаса, экс-начальник Главного управления службы контроля Президента;**
**Л.Ф.КАРПЕНКО,**
**общественный обвинитель по Беларуси;**
**П.П.КОЗЛОВСКИЙ,**
**генерал-полковник, экс-министр обороны РБ;**
**В.В.ПАВЛОВ,**
**генерал-майор, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва, в 1991—1994 гг. начальник управления безопасности, обороны и борьбы с преступностью Совета министров РБ;**
**В.Д.ФРОЛОВ,**
**генерал-майор,**
**депутат Палаты представителей Национального собрания РБ.**

**ЗЕРКАЛО**

# Путин против Лукашенко

*Последнее время в Минске активно стали распространяться слухи о том, что Кремль поддался на уговоры Лукашенко и закрыл глаза на референдум и политическую ситуацию в Беларуси. Доверенные лица с мрачным выражением нашептывают информацию о группе экспертов из Главного разведывательного управления российского Министерства обороны, которые якобы приехали в белорусскую столицу с тайной миссией внедрить план поглощения Россией нашей многострадальной Родины. Это ложь и провокация! В Кремле осуждают желание Лукашенко изменить Конституцию и баллотироваться на третий срок. Владимир Путин не будет больше брать на себя ответственность за дела Лукашенко, прикрывать и оплачивать из российского бюджета белорусские эксперименты.*

**Павел ШЕРЕМЕТ**

Белорусское общество больше любит и уважает президента России, чем президента Беларуси. Путин об этом знает и такое отношение к себе ценит. Обратимся к данным социологических исследований, которые проводят независимые компании, аналитики белорусского КГБ и специалисты из России. **Все они в один голос утверждают, что рейтинг популярности Путина в Беларуси в 2 раза превышает популярность Лукашенко.**

Более того, если проанализировать социальный состав этой любви, то можно четко увидеть, что среди хорошо образованных белорусов число желающих голосовать за Лукашенко примерно в четыре раза меньше, чем среди лиц с образованием ниже среднего. То есть чем менее образован человек, тем больше он любит Лукашенко. Такие же показатели и по возрасту. Но здесь зависимость уже прямо пропорциональная — среди старейших слоев населения Беларуси процент сторонников Лукашенко примерно в пять раз больше, чем среди возрастной группы 18—35 лет. Молодежь голосует против Лукашенко, они не хотят связывать свое будущее с ним. И абсолютно другая картина со сторонниками российского президента в нашей стране.

Электорат Владимира Путина распределен равномерно по всем слоям населения, он во многом повторяет и структуру населения Российской Федерации. За Путина в Беларуси готовы голосовать бедные и богатые, образованные и не очень, бабушки, которые помнят Ленина, и молодые люди, ориентированные на современную жизнь. **Электорат Лукашенко, по данным социологов, — это старейшие, менее образованные и беднейшие слои населения Республики Беларусь. Лукашенко — это не президент Республики Беларусь. Лукашенко — это президент стареющей, менее образованной, проживающей в сельской местности и беднейшей части населения Республики Беларусь. Александр Лукашенко — это уже наше прошлое. Он не сможет победить честно.** Путин это знает и будет на это реагировать. Не верьте официальным натянутым улыбкам во время официальных встреч — таков протокол. Мы ведь соседи и официальные союзники. Но президент России запомнил, что в дни национального траура в России только один человек воспользовался национальной трагедией россиян для решения своих политических задач. Путин такого цинизма никогда не простит.

В России любят белорусов и всегда выделяют их из общей семьи славянских народов как добрый и покладистый народ. В России много анекдотов о хохлах, о сложных отношениях с Украиной. Такие же анекдоты, только про русских, можно услышать в Украине. Но никто никогда даже дружески не высмеивает в России белорусов. Нас любят, уважают, а теперь, правда, еще и жалеют. При этом прагматические российские политики видят в последнее время: когда растет рейтинг Лукашенко, пророссийская ориентация белорусского населения уменьшается. Таким образом, чем дольше Лукашенко у власти, тем больше шансов "на выходе" получить Беларусь с доминирующими антироссийскими настроениями. Российскую элиту это пугает, для нее Лукашенко и Беларусь — это уже не одно и то же. В сложное для России время, после серии терактов, в момент сложной политической реформы Владимиру Путину предлагают еще и подписаться под делами Лукашенко. Весь мир — против, почему же Россия будет — за? Путин не поддержит возможно сфальсифицированный референдум, пусть даже и у друзей-соседей!

**СЛОВО К УЧИТЕЛЯМ**

# Не поддерживайте то, что расходится с реальной жизнью

Дорогие учителя!

Завтра Вы будете праздновать свой профессиональный праздник — День учителя.

Накануне вы услышите много теплых слов от своих учеников. В эти дни приятно получать цветы и поздравления и не принято говорить о трудностях, с которыми ежедневно сталкиваются наши учителя. Это и нехватка учебников в сельских школах, низкая зарплата и зачастую невозможность обеспечить свой быт, и последствия школьной реформы, которые до сих пор неоднозначно воспринимаются и учителями, и родителями.

И все-таки в этот день учителя как никогда чувствуют себя нужными. Если не государству, то школе и ее ученикам.

Беларусь — страна огромных педагогических традиций. Интерес и любовь к профессии учителя не смогли сломать никакие бури и катаклизмы начала 1990-х. Эту профессию выбирают те, кто действительно любит детей.

Настоящий учитель — это призвание, это то, что определено человеку от Бога. Такой человек не сможет реализовать себя в другой сфере.

Сегодня государство говорит много красивых слов об учителях. Но забота о них чаще всего остается только на словах. Долгожданное повышение зарплаты учителей произошло, но рост цен значительно опередил ее. Многие учителя вынуждены работать на две ставки, а в свободное время подрабатывать, давая частные уроки. И это реальность сегодняшнего дня.

В советские времена учителей называли совестью эпохи. И именно им чаще всего приходилось рассказывать ученикам то, что значительно расходилось с реальной жизнью.

Сегодня, похоже, те времена возвращаются.

Учитель, задача которого учить думать других, вынужден сегодня не говорить вслух о том, что происходит в стране на самом деле. Потому что боится потерять работу, боится остаться без средств к существованию, боится остаться ненужным в своей стране. Это и есть истинная политика государства в области образования. Ведь забота о людях, посвятивших свою жизнь делу обучения и воспитания молодого поколения, — это в конечном итоге забота о будущем наших детей, о будущем нашей страны, которую сегодня покидают десятки тысяч молодых, талантливых, трудоспособных белорусов, не получивших возможность реализоваться на Родине.

Сегодня мы стоим на пороге парламентских выборов и референдума. Значительная часть участковых избирательных комиссий сформирована в стенах школ. И по опыту предыдущих выборов мы знаем, что большинство фальсификаций при подсчете голосов осуществляется под патронажем завучей и директоров школ, при безмолвном участии педагогов.

Вот почему сегодня, в канун Дня учителя, мы просим всех учителей: оставайтесь честными, принципиальными. Только так мы сможем добиться своего права жить в свободной, независимой стране, где каждый из нас будет трудиться на благо будущих поколений.

**Политсовет**
**Объединенной**
**гражданской партии.**



**МОНИТОРИНГ**

## ЦИК официально разрешил международным экспертам одновременно наблюдать за выборами и референдумом

Постановление ЦИК предусматривает, что все иностранные и международные наблюдатели, приглашенные "на законных основаниях" в качестве наблюдателей на выборы депутатов Палаты представителей, смогут, по их желанию, осуществлять наблюдение и за ходом проведения республиканского референдума. Эти же правила распространяются и на внутренних наблюдателей.

Однако под действие данного постановления подпадают только участковые избирательные комиссии. Что касается комиссий среднего звена, то парламентские выборы обслуживают окружные избирательные комиссии, а на референдуме — территориальные. В связи с этим Центризбирком намерен в ближайшее время принять отдельное постановление о порядке направления наблюдателей в территориальные избирательные комиссии.

## Группа граждан подала в Мингорисполком заявку на проведение 10 октября на площади Бангалор митинга и концерта

По словам одного из заявителей, активиста Объединенной гражданской партии (ОГП) Владимира Романовского, на митинге будут обсуждаться "политическая и социально-экономическая ситуация в стране", сложившаяся накануне проведения конституционного референдума и выборов депутатов Палаты представителей.

## Александр Волчанин обеспокоен угрозами в его адрес

Кандидат от Объединенной гражданской партии по Жодинскому избирательному округу № 81 Александр Волчанин подал заявление в прокуратуру Жодино об угрозах физической расправы в его адрес.

А.Волчанин, ссылаясь на достоверные источники, утверждает, что над ним готовится физическая расправа. "Я могу доверять этому источнику, он — офицер и имеет не одну звезду", — подчеркивает кандидат. По его словам, причиной такой расправы может послужить предвыборное выступление в эфире Белорусского телевидения, где он "открыто обратился к властям с заявлением о коррупции среди чиновников Жодинского исполнительного комитета...". Я требую от прокуратуры либо обеспечить мою охрану, либо провести расследование", — заявляет А. Волчанин.

"Попытки запугать нас не пройдут", — подчеркнул А.Волчанин.

**БелаПАН.**

## Небяспечнае выданне Леры Сом

*Адной з першых удзельнікаў выбарчай гонкі ў Полацку паклапацілася аб выданні сваіх улётак кандыдат у дэпутаты парламента па выбарчай акрузе №28, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, маладая паэтка Алена Сом, вядомая чытачам пад псеўданімам Лера Сом.*

Падобна, што, як і яе віцебскі калега-кандыдат Павел Севярынец, спадарыня Сом наіўна лічыла, што зарэгістраваны прэтэндэнт на месца ў Палаце прадстаўнікоў мае права дзяліцца з выбаршчыкамі сваімі шчырымі, не адрэдагаванымі казённай цэнзурай думкамі. Таму ў шэрагу пералічаных ва ўлётцы праблем, якія патрабуюць роздуму і вырашэння, палачанка закранула надзённую тэму рэферэндуму. Кандыдатка выступіла супраць трэцяга тэрміну знаходжання на чале дзяржавы дзеючага цяпер прэзідэнта: "Хопіць гвалціць Канстытуцыю! Хопіць падганяць законы пад аднаго чалавека! Не — трэцяму тэрміну!"

У сваёй перадвыбарчай праграме Алена Сом выступае супраць "кантрактнага рабства", залішніх пабораў з прадпрыемстваў, таямнічага "прэзідэнцкага фонду". Ёсць у пісьменніцы і пазітыўная частка праграмы. Сом — за развіццё малога бізнесу, за рэальныя падаткі і цалкам празрысты бюджэт.

Улётка таксама ўтрымлівае партрэт і біяграфію кандыдаткі, дасціпныя карыкатуры на тэмы беларускага жыцця.

У хуткім часе з друку выйдуць яшчэ тры ўлёткі Алены Сом, не менш змястоўныя і цікавыя, чым першая.

Але гэтая дзейнасць прэтэндэнткі, хутчэй за ўсё, застанецца марнай. Вопыт шэрагу "нежаданых" кандыдатаў, скінутых мясцовай уладай з перадвыбарных рэек, пераконвае, што Алена Сом, як і Павел Севярынец, будзе абвінавачана ў паклёпе і пазбаўлена кандыдацкага статусу. Гэтыя прыкрыя факты сведчаць, па-першае, аб панаванні ўладнага самадурства, а, па-другое, аб тым, што "вертыкальшчыкі разам са сваім сталічным начальствам выдатна ведаюць, што значная частка народа не падтрымлівае намер цяперашняга прэзідэнта пераўтварыцца ў прэзідэнта пажыццёвага. Чыноўнікі баяцца, што народ прагаласуе не за страх, а за сумленне. Таму адзін за адным пазбаўляюцца права на ўдзел у выбарах тыя людзі, якія выказваюць нязгоду з лініяй "партыі ўлады".

Не выключана, што ў момант, калі гэтыя радкі друкуюцца на газетнай старонцы, выбарчая камісія Полацкай акругі №28 ужо сфармулявала нагоду для пазбаўлення Алены Сом рэгістрацыйнага дакумента.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# ...И девушек наших ведут в кабинет

**Сергей ПУЛЬША**

"Своему обществу мы в ближайшее время должны показать, чем они занимаются здесь, как они из наших девчат пытаются сделать проституток, что они здесь творят, как они кормят наших граждан наркотиками, как они здесь гомосексуализм распространяют, какими методами работают". Такую задачу поставил президент на заседании Совета безопасности.

"Они", судя по контексту, — это страны Запада. Прежде всего — те, которые ввели визовый запрет для ряда должностных лиц Беларуси.

Так что белорусское общество скоро ждет волна "чернухи" и удивительных разоблачений. А действительно, кто кормит белорусов наркотиками и растлевает молодежь?

Как сообщил на пресс-конференции в конце июня главный нарколог Министерства здравоохранения **Владимир Максимчук,** ситуация с распространением наркомании в стране остается напряженной. Общее число больных наркоманией, состоящих на наркологическом учете, достигло 10.452 человек.

В последнее время наблюдается рост числа наркоманов среди женщин. Их зарегистрировано 1565, в то время как в 1999 году на учете состояло 869. Постепенно увеличивается употребление наркотических средств среди молодежи.

По словам начальника отдела по противодействию незаконному обороту наркотиков Министерства внутренних дел **Ромуальда Андриевского,** в последнее время в Беларуси наблюдается "активная перестройка" наркотического рынка: на смену традиционным наркотикам растительного происхождения приходят синтетические. Наибольшую популярность приобрел метадон, который постепенно вытесняет героин. В этом году общий вес изъятого метадона уже превысил уровень 2003 года в 5,7 раза и составил 464 грамма.

Кроме того, вызывает тревогу массовое распространение психотропных веществ, в частности, стимуляторов амфетаминового ряда. Эти наркотики, отметил специалист, получают все большую популярность среди молодежи и распространяются в местах массового отдыха.

То есть совершенно не обязательно возить наркотики откуда-то: их можно производить и здесь.

Как сообщили БелаПАН в управлении информации и общественных связей МВД Беларуси, только в ходе операции "Канал-2004", проводившейся с 14 по 20 сентября, на территории страны выявлено 161 преступление в сфере незаконного оборота наркотиков, к уголовной ответственности привлечено 84 гражданина. Изъято 123 килограмма наркотических веществ.

Да, мрачноватая картина. Хотя никакой подрывной деятельности Запада в сводках компетентных органов на сей счет не зафиксировано. Кто захочет погубить свое здоровье, прекрасно сделает это и без помощи иностранных государств.

Ну а как с проституцией?

Общественное объединение "Белорусская ассоциация молодых христианских женщин" подвело итоги деятельности горячей линии "Ла Страда" для женщин по вопросам безопасного выезда и пребывания за границей. За 3 года и 8 месяцев работы — с января 2001 по август 2004 года — поступило 6335 телефонных звонков.

На основе полученных звонков можно сделать вывод, что наиболее популярными странами выезда для белорусских женщин являются Германия (15,4%), Италия (6,4%), Великобритания (5,5%), Кипр (5,4%) и США (5,4%). Всего география выезда включает 65 стран, в том числе достаточно экзотические для нас — Йемен, Буркина-Фасо, Мали, Перу, ЮАР, Иордания, Мексика, Ямайка и Пакистан.

Однако выезд на легальную работу — это одно. А то, как "из наших девчат пытаются сделать проституток", — немножко другое.

В 2002—2004 годах сотрудники "Ла Страды" получили 95 обращений от женщин, ставших объектами торговли, и их родственников. В каждом случае была оказана помощь.

То есть белорусские женщины едут за рубеж большей частью на вполне легальную работу. Процент искательниц сомнительных заработков не так уж и велик. Или в "Ла Страду" они меньше обращаются.

Примечательно, что Европа не меньше, а может быть и больше нашего озабочена проблемой торговли женщинами. Их прогрессивная общественность часто пеняет как раз таки на безразличное отношение к этому больному вопросу со стороны высокопоставленных чиновников стран СНГ.

А вот как можно распространить гомосексуализм? **Павел** (фамилию просил не называть) обращает внимание на то, что нетрадиционная сексуальная ориентация — это не инфекция.

*"Любой психиатр скажет, что гомосексуализм — это либо заложено генетически, либо является следствием неправильного воспитания в раннем детстве или в период полового созревания. Именно тогда формируется склонность к гомосексуальным связям и, кстати говоря, эта склонность может даже никак не проявляться — просто потому, что у человека не будет соответствующих условий для ее развития. Ведь геи вынуждены мимикрировать: они ведут себя, как натуралы, заводят семьи, детей... И если человек не попал в их окружение, то склонность к гомосексуализму — если она у него есть, — и развиваться не будет",* — говорит Павел.

Так что в концепции умышленного распространения гомосексуализма сомневаются и сами представители этой сексуальной ориентации. Похоже, и тут "тлетворное влияние Запада" — всего лишь жупел.



**Фото photo.bymedia.net**
*("Белорусские новости.")*

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# Мараль гісторыі такая:

### *Не рабі дабра, не атрымаеш зла*

Гэта канфліктная гісторыя адбылася ў адным з пасёлкаў на Гродзеншчыне. А прычынай гэтага стала карова, якая нечакана стала канаць проста на пашы. Ды так імкліва, што пастух не на жарты занепакоіўся. Ён меў ветэрынарную адукацыю і, паназіраўшы, як пакутуе бедная жывёліна, вырашыў, што ў палявых умовах паратунку ніякага не знойдзе. Адзінае выйсце: трэба карову прырэзаць. Тады можна будзе здаць мяса, і гаспадар атрымае хоць нейкую капейку. А як здохне, то прыйдзецца жывёлу закапаць.

Пасля таго як карова была прырэзана, пастух наказаў гаспадару, каб той прыйшоў на пашу, маўляў, з яго рагуляй здарылася бяда. Яны разам асвежвалі тушу, і гаспадар дазволіў пастуху здаць мяса і скуру, а грошы, вядома ж, аддаць яму. Каб пастух ведаў, што потым адбудзецца, то, можа, і не браў бы ў рукі нож. Але ж чалавек хацеў як лепш. І зрабіў як лепш. Не дзеля падзякі ці якой-небудзь карысці. Проста па дабраце душэўнай не мог глядзець, як мучыцца бедная скаціна, не хацеў, каб гаспадар панёс страты.

Трэба адзначыць, што на пашу адразу ж паклікалі ветэрынарнага ўрача. Ён агледзеў карову і, акрамя ўздуцця, ніякай хваробы ў яе не знайшоў. Выдаў адпаведную даведку і канстатаваў, што выратаваць карову на пашы не было ніякай магчымасці. Яна ўсё роўна прапала б, і пастух зрабіў правільна, прырэзаўшы жывёліну.

Ветэрынарны ўрач таксама адзначыў, што ўздуцце магло адбыцца па розных прычынах, у тым ліку і ад хваробы печані. І сапраўды, санітарны эксперт ветэрынарнай станцыі прыйшоў да высновы, што пашкоджана толькі печань, а мяса выдатнай якасці.

Гаспадару, канешне, трэба паспачуваць, бо ў наш час страціць карову — гэта не жарты. Яна каштуе вялікіх грошай. Але ж пастух зрабіў сумленна: ён здаў скуру, мяса і грошы вярнуў гаспадару. Гаспадар грошы ўзяў. На тым і разышліся.

Праз некаторы час гаспадар вырашыў купіць другую карову. Апытаў людзей і старгаваў някепскую рагулю ў адной з вёсак. Заплаціў за яе больш, чым атрымаў ад пастуха за прырэзаную. Таму ён і звярнуўся да пастуха, каб той дабавіў яму грошай.

Пастух адмовіўся.

— Я грошай не дам, — цвёрда сказаў гаспадару.

— Тады будзем судзіцца, — суровым тонам прамовіў гаспадар. — Навошта ты яе чапаў нагул.

— Дык жа здохла б...

— Няхай бы здыхала. Тады я страхоўку атрымаў бы. Яна была застрахавана. Пойдзем у суд, і няхай ён з цябе спагоніць розніцу.

— Ты мог купіць яшчэ даражэйшую карову, а я павінен плаціць?

— А як ты думаў? Ну, нічога. Суд разбярэцца.

Суд і сапраўды разабраўся. Ён скрупулёзна вывучыў справу. Акрамя ўсяго іншага, суд улічыў і тое, што ў статку было 29 кароў і ніводная з іх не захварэла.

І яшчэ. Каб пастух своечасова не прырэзаў карову, то гаспадар мяса выкінуў бы. І невядома яшчэ, ці атрымаў бы ён страхоўку. Магло стацца так, што не атрымаў бы нічога.

Суд адмовіў гаспадару ў выплаце страты.

Па-мойму, чалавеку ў любых абставінах трэба заставацца чалавекам. Спачуваючы гаспадару, нельга не сказаць пра тое, што ён абышоўся з пастухом не па-людску. Той замест падзякі за дапамогу атрымаў шмат непрыемнасцяў. Стаў нават удзельнікам судовых разборак.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ВІНШУЕМ!

## Казімір Свёнтэк атрымаў прэмію Папы Рымскага

Кіраўнік Беларускага каталіцкага Касцёла, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі Казімір Свёнтэк пабываў на аудыенцыі ў святога Айца Яна Паўла Другога ў Ватыкане, дзе атрымаў прэстыжную прэмію Fidei testis (што ў перакладзе з лацінскай мовы азначае "сведка веры"). Прэмія прысуджана Інстытутам Паўла VI у г. Брэшыя (Італія) падчас сімпозіума, прысвечанага 25-й гадавіне заснавання Інстытута.

Падчас узнагароджання кардынала Свёнтэка Папа адзначыў, што *"ўзнагарода Fidei testis — гэта тытул, які больш за ўсе іншыя адпавядае хрысціяніну, а яшчэ больш пастыру, які мае кардынальскую годнасць і які даў вернае і мужнае сведчанне Хрысту і яго Евангеллю ў цяжкія гады праследавання Каталіцкага касцёла ва Усходняй Еўропе".*

*"У хуткім часе пасля Вашага святарскага пасвячэння, — нагадаў Папа, — Божы провід паклікаў Вас прайсці па via crucis* (крыжовым шляху — **Рэд.**) *праследаванняў, супольным з пакутамі хрысціянскага народа, даверанага Вам, асабіста несучы крыж зняволення, несправядлівага абвінавачання і цяжар катаржнай працы ў лагерах у знясіленасці, голадзе і холадзе".*

Як паведамілі ў Апостальскай Нунцыятуры ў Мінску, падчас атрымання прэміі з рук Папы Яна Паўла II кардынал Казімір Свёнтэк уручыў галаве Касцёла экзэмпляр "Рымскага Імшала для дыяцэзій на Беларусі", а таксама ружанец — падарунак каталіцкай моладзі Беларусі. З удзячнасцю прымаючы дар, Папа пацалаваў крыж на ружанцы.

**Наталля ГАК.**

### З гісторыі

Міжнародная прэмія Паўла VI кожныя пяць гадоў прысуджаецца асобе або ўстанове, якая ўнесла надзвычайны ўклад у рэлігійную культуру. Першы раз прэмія была прысуджана ў 1984 г. швейцарскаму тэолагу Гансу Урсу фон Балтазару за навуковую дзейнасць у галіне тэалогіі. У 1988 г. прэмія была прысуджана ў другі раз. Яе атрымаў за дасягненні ў музычным мастацтве французскі музыкант Аліўе Мэсіян. У трэці раз прэмія была прысуджана ў 1993 г. за экуменічную дзейнасць. Лаўрэатам стаў французскі лютэранскі дзеяч Аскар Кульман, які атрымаў яе 2 красавіка ў Мілане з рук кардынала Карла Марыі Марціні. Чацвёртае прысуджэнне прэміі адбылося ў 1997 г. за дасягненні ў галіне абароны правоў чалавека. Ёю быў адзначаны канадзец Жан Ванье, заснавальнік арганізацый "Каўчэг" і Foi et lumiere ("Вера і святло"), за сваю дзейнасць у абарону разумова непаўнацэнных асобаў, якую ён праводзіў на міжнародным узроўні.

Кардынал Казімір Свёнтэк стаў пятым лаўрэатам прэміі.

ЗДАРЭННІ

## Падарожжа са смяротным вынікам

*Супрацоўнікі ДАІ расстралялі машыну, якая ішла на вялікай хуткасці. Кіроўца загінуў на месцы.*

Жудаснае здарэнне адбылося на 12-м кіламетры магілёўскай шашы. Позна ноччу супрацоўнікі ДАІ заўважылі аўтамабіль "Мазда", які, паводле іх слоў, рухаўся на вялікай хуткасці. На патрабаванні спыніцца кіроўца не адрэагаваў, міліцыянты пачалі пераслед і адкрылі агонь, спачатку ў паветра, пасля — па колах. У выніку 23-гадовы кіроўца "Мазды" Аляксей Паўловіч не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў слуп. Малады чалавек загінуў на месцы.

Па меркаванні начальніка Мінскай дзяржаўтаінспекцыі Васіля Бульбянкова, супрацоўнікі ДАІ дзейнічалі згодна з Законам аб міліцыі. *"Канешне, там адназначна законна выкарысталі зброю,* — распавёў Бульбянкоў беларускай службе Радыё Свабода. — *Ён ішоў з хуткасцю 140-160 кіламетраў, ствараў рэальную пагрозу бяспецы. Якое мае значэнне, уначы ці ўдзень? Ён мусіць выконваць законныя патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі спыніцца. Думалі ўгоншчык ці наркаман нейкі".*

Аляксей Паўловіч — з Засточча, апошнім часам працаваў у мінскім гандлёвым комплексе "Паркінг". Сябры загінуўшага кажуць, што хлопец быў вельмі сціплы і выхаваны, і не вераць, што ён мог хавацца і адмыслова ўцякаць ад міліцыі. Бацькі Аляксея некалькі гадоў таму пахавалі дачку, зараз страцілі сына...

Ці было іншае выйсце з сітуацыі, акрамя таго, каб прымяніць зброю, і ці можна было захаваць жыццё маладому чалавеку? Родныя Аляксея спадзяюцца, што на гэтыя пытанні адкажа следства.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

## Палякаў у Беларусі дыскрымінуюць?

*Маршалак сената Польшчы Лонгін Пастусяк звярнуўся з лістом да старшыні Савета Рэспублікі Генадзя Навіцкага, дзе заклікаў беларускія ўлады аднолькава ставіцца да прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей. Пра гэта паведаміла Польскае прэс-агенцтва (PAP).*

*— Сенат Польшчы з'яўляецца апекуном палякаў, якія жывуць за мяжой. Таму як маршалак сената я маю надзею, што грамадзяне Беларусі польскага паходжання будуць мець магчымасць актыўна ўдзельнічаць у жыцці сваёй краіны, у прыватнасці, праз парламенцкія выбары... Парламенцкія выбары прыцягваюць увагу наглядальнікаў ва ўсёй Еўропе. Гэта вельмі добрая магчымасць, каб Беларусь паказала сябе як краіна, якая кіруецца прынцыпамі дэмакратыі і захавання правоў чалавека,* — напісаў Лонгін Пастусяк.

Падставай для звароту маршалка сената Польшчы (вышэйшая палата польскага парламента) да беларускіх уладаў стала адмова ў рэгістрацыі ў якасці кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў стваральніку Саюза палякаў на Беларусі Тадэвушу Гавіну і старшыні СПБ Тадэвушу Кручкоўскаму.

Нагадаем, што Тадэвушу Гавіну было адмоўлена ў рэгістрацыі на падставе таго, што 62 подпісы за вылучэнне ягонай кандыдатуры былі прызнаны несапраўднымі. На думку Гавіна, мясцовыя ўлады шляхам ціску і падману прымусілі грамадзян адмовіцца ад сваіх подпісаў. Дзеля доказу гэтага ён прыклаў 17 заяў грамадзян, якія пацвердзілі сапраўднасць сваіх подпісаў. Аднак ні Цэнтрвыбаркам, ні Вярхоўны суд не прызналі гэтыя заявы доказамі. Людзей, якія дамагаліся справядлівасці, не пажадалі выклікаць і ў якасці сведкаў.

*— Я лічу, што сапраўднай прычынай таго, што мне адмовілі ў рэгістрацыі, стала, як мае апазіцыйныя погляды, так і тое, што я паляк. Што датычыцца ліста Пастусяка, то ён спазніўся. Ліст з'явіўся пасля таго, як было прынята канчатковае рашэнне і нічога ўжо нельга было змяніць. Трэба было раней цікавіцца выбарамі ў Беларусі,* — заявіў "Пагоні" Тадэвуш Гавін.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Памятаем Вас, Віктар!

У Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі народнаму артысту Беларусі Віктару Вуячычу на доме па вуліцы Янкі Купалы, 7, дзе ён жыў.

Адкрылі мемарыяльную дошку міністр культуры Леанід Гуляка і народны артыст Беларусі Міхаіл Дрынеўскі. На цырымоніі прысутнічалі ўдава артыста Святлана Вуячыч, ягоныя калегі і сябры, а таксама школьнікі і студэнты.

Міністр культуры, у прыватнасці, зазначыў, як прыгожа Вуячыч "пайшоў з жыцця". Нават калі артыст перастаў актыўна займацца выканальніцкім майстэрствам, "ён яшчэ 10 гадоў быў мастацкім кіраўніком аб'яднання "Белканцэрт", сказаў Л.Гуляка. Кампазітар Валерый Іваноў зазначыў, што "менавіта В.Вуячыч быў першым беларускім выканаўцам, хто праклаў дарогу на ўсесаюзную эстраду сваёй высокай музычнай творчасцю", дзкуючы яму многія сталі "па-сапраўднаму займацца эстрадай". Паводле слоў Іванова, Віктар Вуячыч шанаваў творчасць беларускіх аўтараў. "Не так шмат у нас выканаўцаў, хто б сваім рэпертуарам прапагандаваў песні сваёй краіны", — заўважыў кампазітар.

Мемарыяльная дошка выканана скульптарам Іванам Міско. Дарэчы, чатыры гады таму ў Краснадарскім краі Расійскай Федэрацыі, на доме ў хутары, дзе нейкі час жыў Вуячыч, таксама была ўстаноўлена мемарыяльная дошка, выкананая Іванам Міско.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## У Мінску адкрыецца дзіцячы кардыяхірургічны цэнтр

У снежні на базе 1-й клінічнай бальніцы горада Мінска пачне працаваць дзіцячы кардыяхірургічны цэнтр. Увядзенне новага цэнтра, аснашчанага паводле еўрапейскіх стандартаў самым сучасным абсталяваннем, дазволіць скараціць колькасць тых, хто чакае чаргу на аперацыі, бо тэмпы іх правядзення будуць больш дынамічнымі.

Штогод у чарзе на аперацыі на сэрцы знаходзяцца 1200 дзяцей. У той час як выконваецца каля 500 такіх аперацый.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Сімвал болю

Адразу дзесяць новых званоў загучалі на званарні старажытнай Ільінскай царквы ў Оршы. Меладычны, магутны голас званоў чуецца за 20 кіламетраў ад горада. Жыхары наваколля гэтым задаволены, бо пераканаы (як аб тым сцвярджаюць і святары), што гукі званоў ачышчаюць паветра і адганяюць нячысцікаў.

Усе дзесяць званоў з'яўляюцца сімвалам болю і вечнай памяці. Яны падараваны храму сям'ёй месцічаў, якая заўчасна страціла сына. Бацькі памерлага маладога чалавека доўгі час не маглі апрытомнець ад скрухі і нават наладзілі паломніцтва па святых месцах. У гэтым сумным падарожжы змучаныя горам бацькі пачулі параду: "Пераўтварыце сваю памяць пра сына ў вечныя гукі званоў".

Так яны і зрабілі. На сямейныя ахвяраванні ў Мінску былі адліты дзесяць розных па маштабах званоў, якія ўзняліся на званарню з дапамогай рабочых аршанскага станкабудаўнічага завода "Чырвоны барацьбіт". Самы вялікі звон важыць 320 кілаграмаў, самы дробны — 88.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Чый бычок? Мой бычок!

Падчас рэйду па выкананні мерапрыемстваў спецыяльнай праграмы "Аграрнік", якую праводзіць Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, у вёсцы Морына Іўеўскага раёна (Гродзенская вобласць) супрацоўнікі Іўеўскага аддзялення аховы затрымалі 31-гадовую загадчыцу калгаснай фермы.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе дэпартамента аховы МУС, жыхарка вёскі Дзяшэвічы выкрала па месцы працы двух быкоў агульнай вагой 706 кг і коштам больш чым паўтара мільёна рублёў. Жывёлу яна прадала 36-гадоваму інваліду 1-й групы (па зроку), які жыве ў суседняй вёсцы.

У дачыненні да загадчыцы распачата крымінальная справа па арт. 210 ч. 1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Крадзеж шляхам злоўжывання службовым становішчам".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## У Пінску адкрыты музей гісторыі адукацыі

У будынку былой школы №10 Пінска быў урачыста адкрыты першы ў гэтым рэгіёне і трэці ў Брэсцкай вобласці музей гісторыі адукацыі, прысвечаны ўзнікненню і развіццю адукацыйных устаноў на Піншчыне, а таксама яе вядомым педагогам.

Як расказала БелаПАН дырэктар музея Клара Румак, экспанаты для музея збіралі работнікі цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму горада, а таксама ветэраны адукацыі, настаўнікі і выкладчыкі. Сёння ў сховішчы ўжо больш за 4000 музейных экспанатаў. Самыя старыя з іх адносяцца да пачатку мінулага стагоддзя. Гэта — старадаўняя парта, форма, школьныя прылады, фатаграфіі.

**Алег СТАЦЭНЯ.**

## П'яны міліцыянер абрабаваў жанчыну

У Брэсце нарадам Ленінскага аддзела аховы сумесна з супрацоўнікамі патрульна-паставой службы міліцыі быў затрыманы ў стане алкагольнага ап'янення 25-гадовы ўчастковы інспектар Ленінскага РАУС.

Капітан міліцыі на прыпынку грамадскага транспарту выкраў у 42-гадовай мясцовай жыхаркі, прадаўца магазіна "Усход", дамскую сумачку, у якой было 300 долараў ЗША. Для выяўлення рабаўніка прымяняўся службова-вышуковы сабака аддзела аховы. Выкрадзенае канфіскавана. Супрацоўнік міліцыі знаходзіўся не на службе, быў у цывільным адзенні. 29 верасня ў дачыненні да яго распачата крымінальная справа па арт. 206 ч. 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Грабеж".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

СКАНДАЛ

# Известный кардиохирург ушел с должности

***Юрий Островский написал заявление об уходе с должности первого заместителя Научно-практического центра "Кардиология" и не участвовал в международной программе "Детское сердце". Как известно, в прошлом году Юрий Островский вместе с американским кардиохирургом Вильямом Новиком прооперировал 23 белорусских ребенка с тяжелыми пороками сердца.***

Имя Юрия Островского *(на фото)* известно даже тем белорусам, которые никогда не сталкивались с "сердечными проблемами". 25 лет Юрий Петрович отдал белорусской кардиохирургии. Он делает уникальные операции на открытом сердце, вместе со своими коллегами Островский разработал искусственный клапан сердца. Это под руководством Островского белорусские кардиохирурги впервые в стране провели операцию на остановленном сердце, когда пациент в течение 4 часов был подключен к аппарату искусственного кровообращения.

И вот стало известно, что Юрий Островский написал заявление об уходе с должности по собственному желанию. Это показалось, как минимум, странным. Еще в начале года Островского рассматривали как потенциального кандидата на должность директора Центра. И говорят, в сердцах Юрий Петрович был согласен занять этот пост. И вдруг он решает отказаться даже от должности зама...

Директор научно-практического центра "Кардиология" **Игорь Адзерихо** подтвердил информацию об отставке Островского: *"Юрий Петрович написал заявление, в соответствии с которым он решил уйти с должности заместителя директора по кардиохирургии и заниматься только научной работой, оставаясь в должности директора лаборатории хирургии сердца.*

*Он работает, делает те же операции, только не исполняет административные обязанности, потому что должность заместителя по хирургии — административная должность".*

В центре говорят, что заявление Островский написал "под давлением". Дело в том, что недавно в суд Ленинского района Минска было передано дело кардиохирургов — коллег и подчиненных Островского ("Народная воля" об этом писала в №148 от 12 августа 2004г.).

*Желание оперировать не пропало.*

Обвинения, предъявленные врачам, слишком серьезные: якобы они продавали пациентам электрокардиостимуляторы и электроды, которые те должны были получать бесплатно. Ущерб, нанесенный пациентам, оценивается в 65 миллионов рублей. Фактически медикам инкриминируют то, что они стали на путь бессовестного обмана людей и путем мошенничества их попросту обкрадывали. Перед судом предстанут пять кардиохирургов, двое из которых уже давно находятся под арестом.

Сами кардиохирурги не признают себя виновными и напрочь отвергают саму возможность совершения какого-либо мошенничества с установкой электрокардиостимуляторов. Сотрудники центра также считают, что многие обвинения, предъявленные их коллегам, просто надуманны.

В ходе следствия на допрос вызывали и тогдашнего руководителя научно-практического центра **Николая Манака** и его заместителя **Юрия Островского**.

В феврале 2004 года Николай Манак лишился директорской должности. По официальной версии, в связи с выходом на пенсию. По неофициальной — Манака "ушли" из-за скандала с кардиохирургами. Николай Андреевич был готов работать и дальше, но в Минздраве, видимо, решили иначе.

И вот теперь с должности ушел Островский. Эта отставка совпала с приездом в Минск международной бригады кардиохирургов во главе с **Вильямом Новиком**. С этим американским кардиохирургом Островский знаком давно, их отношения называют даже дружескими. В прошлый приезд в Минск осенью 2003 года Новик и Островский в рамках программы "Детское сердце" прооперировали 23 белорусских ребенка с тяжелыми пороками сердца. В этот раз Островский не участвовал в программе. Как нам стало известно, это было решение белорусской стороны, которым Юрий Островский, мягко говоря, был очень огорчен.

Комментируя эту ситуацию "Народной воле", **Игорь Адзерихо** сказал: *"Так было продумано для того, чтобы дать возможность всем и особенно молодым белорусским хирургам учиться у Новика, получать те практические навыки, которыми он владеет. За все время операций вместе с Новиком смогли оперировать все врачи детского отделения нашего кардиологического центра и детского кардиохирургического центра".* Выходит, еще год назад вопрос о том, чтобы молодые белорусские кардиологи учились у Вильяма Новика, не стоял так остро. Такая необходимость возникла именно сейчас, когда Островский ушел с должности...

Сам Островский отказывается комментировать и свою отставку, и свое неучастие в совместной акции "Детское сердце". Говорит только, что он расстроен...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

